# 1. Уводзіны

Бюлетэнь падсумоўвае вынікі першага этапу маніторынгу парламенцкай кампаніі ў Беларусі. Аналіз ахоплівае 18 беларускіх медыя, дзяржаўных і недзяржаўных, электронных і друкаваных, агульнанацыянальных і рэгіянальных.

Маніторынг мае на мэце спрыяць прафесійнаму і аб'ектыўнаму асвятленню выбарчай кампаніі.

ГА "Беларуская асацыяцыя журналістаў"(ГА БАЖ), якая праводзіць гэты маніторынг, з'вяртае ўвагу калег на неабходнасць нескажона, неперадузята і поўна інфармаваць выбаршчыкаў пра электаральны працэс, аб праграмах будучых кандыдатаў, а таксама меркаваннях іх прыхільнікаў і апанентаў.

Метадалогія маніторынгу дазваляе выявіць як агульную мадэль, так і асобныя выпадкі непрафесійнага асвятлення выбарчай кампаніі. Медыйныя матэрыялы аналізуюцца з пункту гледжання якасных і колькасных паказчыкаў. Найбольш істотнымі для іх ацэнкі з'яўляюцца міжнародна прызнаныя прынцыпы і стандарты асвятлення выбарчых кампаній, нормы журналісцкай этыкі. Папярэднія маніторынгі, што ладзіла ГА БАЖ цягам мінулага дзесяцігоддзя, дазваляюць таксама параўноўваць як асвятляліся розныя выбарчыя кампаніі.

Пазначаны вышэй перыяд маніторынгу тычыцца пачатку працы абласных і акруговых выбарчых камісій (АБК і АК), рэгістрацыі ініцыятыўных груп (ІГ) і вылучэння кандыдатаў (ПК).

# 2.Падсумаванне вынікаў

Дадзеныя маніторынгу дазваляюць зрабіць выснову, што мадэль асвятлення выбарчай кампаніі ў дзяржаўных электронных медыя застаецца традыцыйнай. Гэта значыць, што выбарчай тэматыкі названыя медыя надавалі ўвагі значна менш, чым "Спорту" ці "Надвор'ю".

Цэнтральная камісія Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенні рэспубліканскіх рэферэндумаў (ЦВК), як і падчас папярэдніх кампаній, з'яўлялася галоўным ньюсмейкерам гэтага этапу маніторынгу. Аднак інфармацыя, што сыходзіла ад яе, паводле свайго характару была пераважна тэхнічнай альбо арганізацыйнай.

У асвятленні кампаніі дамінавала неперсаніфікаваная манера рэпрэзентацыі ініцыятыўных груп (ІГ) і патэнцыйных кандыдатаў (ПК). Разам з тым гэтыя ж медыя падавалі інфармацыю пра некаторыя

праўрадавыя арганізацыі (ПРА), што ўдзельнічаюць у зборы подпісаў, а іх прадстаўнікі мелі магчымасць выступіць у эфіры.

Хаця ў шэрагу выпадкаў дзейнасць апазіцыі і рэпрэзентавалася негатыўна, адпаведныя ацэнкі былі больш стрыманымі ў параўнанні з аналагічным перыядам парламенцкіх кампаній 2008 і 2012 гг.

Назіральнікі, як нацыянальныя, так і замежныя, былі рэпрэзентаваныя ў пераважна нейтральным тоне.

Недзяржаўныя медыя, інтэрнэт-рэсурс *tut.by* і газета *“Народная воля”,* відавочна, імкнуліся мінімізаваць неперсаніфікаваную манеру падачы розных суб’ектаў выбарчага працэсу.

# 3.Асноўныя вынікі

### 3.1 Дзяржаўныя медыя

У тэлевізійнай праграме *“Наши новости” (ОНТ)* выбарчая тэматыка аказалася маргінальнай. Ёй было адведзена 1,8% часу. Тады як “Надвор’е” мела 5%, а “Спорт” – каля 20%. Прыкладна такія ж суадносіны характэрныя і для навінавай праграмы *“Панарама” (“Беларусь 1”).* Да таго ж варта адзначыць, што ў некаторых выпусках выбарчая тэматыка ўвогуле адсутнічала (напрыклад, *“Наши новости” ад 19, 21 і 22.07.16 і* “*Панарама” ад 23.07.16 .*

Праграма *“Радыёфакт” (Першы нацыянальны канал Беларускага радыё*) прысвяціла тэме выбараў крыху больш часу – 5%. Між тым выпускі прагнозу надвор’я занялі каля 9% эфірнага часу. Дарэчы, падчас аналагічнага перыяду мінулагодняй прэзідэнцкай кампаніі тэме выбараў адводзілася часу ў 2 разы больш – амаль 10%.

Спартыўнай інфармацыі праграма *“Радыёфакт”* надала амаль 12% часу. У “*Навінах” Радыё “Сталіца”* спорту было яшчэ болей – 48%.

Між іншым, чатырохгадовы цыкл парламенцкіх выбараў у краіне супадае з гэткім жа цыклам летніх алімпійскіх гульняў. Праўда, у 2004, 2008 і 2012 гг. кандыдатаў рэгістравалі пасля заканчэння алімпійскіх гульняў. А на гэты раз частка найбольш актыўнай фазы выбарчай кампаніі (агітацыя) будзе супадаць з тэлевізійнай трансляцыяй алімпійскіх гульняў і адпаведна з вялікім аб’ёмам спартыўнай інфармацыі ў самых розных медыя.

Сярод усіх суб’ектаў маніторынгу найбольш эфірнага часу мелі прадстаўнікі ЦВК. У праграме *“Наши новости” (ОНТ)* – амаль 24% параўнальна з усімі іншымі суб’ектамі маніторынгу, у праграме *“Радыёфакт”* – амаль 54%. На тэле і радыёканалах Цэнтральная

камісія была прадстаўлена галоўным чынам асобамі яе старшыні сп-ні Ярмошынай і сакратара сп. Лазавіка.

Рэгіянальныя ТБ-каналы больш увагі надалі абласным, участковым, акруговым камісіям і ЦВК. Напраклад, у выпусках праграмы "*Навіны Рэгіён" (ТРК "Магілёў)* названыя камісіі атрымалі адпаведна 21%, амаль 11%, каля 4% (ЦВК – 9,4%).

Сярод іншых суб'ектаў на агульнанацыянальных і рэгіянальных каналах вылучаліся ініцыятыўныя групы (ІГ) і патэнцыйныя кандыдаты (НПК), якія рэпрэзентаваліся, аднак, неперсаніфікавана. Увага да іх вагалася ў межах ад 5 да 15% часу.

Разам з тым, на фоне пераважна неперсаніфікаванай рэпрэзентацыі суб'ектаў выбарчага працэсу некаторыя дзяржаўныя медыя (напрыклад, "*Навіны Гомель"* ад *07.07.16 (ТРК "Гомель")* і "*Радыёфакт"* ад *21.07.16*) фактычна рабілі прамоцыю праўладным кандыдатам і праўрадавым арганізацыям, якія займаюцца зборам подпісаў на карысць гэтых кандыдатаў.

Дзяржаўны інтэрнэт-рэсурс www.belta.by стварыў больш дыверсіфікаваную карціну выбарчага працэсу, у якой прысутнічаюць не толькі выбарчыя камісіі рознага ўзроўню, неперсаніфікаваныя ініцыятыўныя групы (ІГ), неперсаніфікаваны суб'ект "Электарат", але і некаторыя палітычныя партыі, напрыклад, апазіцыйныя Аб'яднаная грамадзянская партыя (АГП), партыя "Беларускі народны фронт" (БНФ) і неперсаніфікаваны суб'ект "Апазіцыя".

БНФ і "Апазіцыю" інтэрнэт-рэсурс рэпрэзентаваў пераважна адмоўна. Крытычна характарызавала іх і прэзідэнцкая газета "*Беларусь Сегодня"*. Яна ж адмоўна выказалася і наконт заходніх назіральнікаў, прадстаўнікоў АБСЕ.

У іншых дзяржаўных медыя назіральнікі, як нацыянальныя, так і замежныя, былі рэпрэзентаваныя пераважна нейтральна.

Рэгіянальныя маніторынгавыя газеты абмежаваліся збольшага афіцыйнай інфармацыяй пра выбарчую кампанію.

### 3.2 Недзяржаўныя медыя

У параўнанні з дзяржаўнымі медыя, інтэрнэт-рэсурс *tut.by* і газета *"Народная воля"* падалі выразна персаніфікаваную карціну выбарчага працэсу. Яны пісалі не толькі пра дзейнасць ЦВК, улады ці ўчастковых камісій па арганізацыі выбараў, але і пра канкрэтных патэнцыйных кандыдатаў, называючы іх прозвішчы, а таксама знаёмілі чытачоў з поглядамі некаторых з іх. *"Народная воля"* распавядала пра 8 асоб, а *tut.by*

пісала альбо згадвала 6 асоб патэнцыйных кандыдатаў. Прычым у абодвух медыя адведзеная ім плошча ў некаторых выпадках была сувымернай з такімі суб’ектамі, як ініцыятыўная група (ІГ) ці ўлада (УЛ). Рэпрэзентаваліся гэтыя асобы пераважна нейтральна.

Іншыя маніторынгавыя недзяржаўныя друкаваныя выданні не выявілі на гэтым этапе сур’ёзнай увагі да выбарчай кампаніі.

## 4. Ацэнкі

Дзяржаўныя медыя распаўсюдзілі некаторыя ацэнкі, датычныя пачатку гэтай выбарчай кампаніі.

Сп. Лазавік, сакратар ЦВК РБ, аб працэсе фарміравання акруговых і абласных выбарчых камісій: “*Надеюсь, что также демократично, также открыто будут проходить и следующие этапы избирательной кампании. Ну и особенно формирование участковых избирательных комиссий” (“Віцебскі веснік. 7 дзён” ад 10.07.16 – (ТРК ”Віцебск”)).*

Сп. Лебедзеў, старшыня місіі назіральнікаў ад краін СНД (НСНД): «*На данный момент мы оцениваем кампанию как спокойную…» (“Радыёфакт” ад 13.07.16 – (Першы нацыянальны канал Беларускага радыё)).* Гэткае ж меркаванне выказала і сп-ня Ярмошына, старшыня ЦВК.

Сп. Вакульчык, старшыня КДБ, падчас сустрэчы з Прэзідэнтам адзначыў: «*Достаточно высокая активность штабов кандидатов в депутаты»; «в штатном режиме работают избирательные комиссии»; «вместе с тем мы наблюдаем достаточно низкий уровень интереса граждан Республики Беларусь к кандидатам из числа представителей различных оппозиционных структур. У них возникают серъезные проблемы со сбором подписей и с учетом низкого интереса к ним со стороны граждан Республики Беларусь» (“Радыёфакт” ад 19.07.16 – (Першы нацыянальны канал Беларускага радыё)).*

З пададзенай вышэй інфармацыі вынікае, што сёлетняя кампанія мае быць яшчэ больш “непрыкметнай”. Галоўнымі яе прамоўтарамі, найверагодней, будуць не палітычныя партыі ці сілы, а ЦВК, выбарчыя камісіі ды іншыя дзяржаўныя ўстановы.

Галасаванне за кандыдатаў у Палату прадстаўнікоў адбудзецца 11 верасня б.г.

Аб’ектамі маніторынгу сталі: *навінавая праграма “Панарама” (“Беларусь 1”); навінавая праграма “Наши новости” (ОНТ); штотыднёвая праграма “Главный эфир” (“Беларусь 1”); праграма ”Радыёфакт” (Першы нацыянальны канал Беларускага радыё); навінавыя выпускі радыё “Сталіца”; праграма “Навіны. Гомель”(ТРК “Гомель”), праграма “Навіны-*

*рэгіён" (ТРК "Магілёў"); штотыднёвая праграма "Віцебскі веснік. 7 дзён"(ТРК "Віцебск"); інтэрнэт-рэсурсы* www.tut.by і www.belta.by; *друкаваныя СМІ* ***"****Беларусь сегодня", "Народная воля", "Комсомольская правда в Белоруссии" ("Таўстушка"), "Заря" (Брэст),"Могилёвская Правда", "Газета Слонімская", "Intex-press", "Слонімскі веснік".*